Цана асобнага нумару 20 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 8. Вільня, Нядзеля, 28 Лютага 1926 г. Год II.

# Сялянская Ніва

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
Вільня, Завальная вул. 7. — (Wilno, ulica Zawalna 7).

Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 6 гадзіны апрача сьвята.

Газэта выходзіць раз у тыдзень.

Падпіска на адзін месяц 1 зл., на 3 мес.—2 зл., на 6 мес.—4 зл., на год—8 зл.

Перамена адрэсу 30 гр.



**Орган Беларускага Сялянскага Саюзу.**

## Самастойнасьць, ці культуральна-пэрсанальная аўтаномія у Б. С. С. Р.

Да гэтага часу, мы беларусы, пад Польшчай часта спатыкаліся з думкай, што ў Савецкай Беларусі, будуецца наша дзяржаўнае жыцьцё, што Савецкая Беларусь здабыла сабе самастойнасьць і ўвайшла ў склад фэдэрацыйнага саюзу С.С.С.Р. як вольная, роўная і самастойная рэспубліка.

Паглянем, як гэта выглядае сапраўды. На паперы выглядае гэта так, як нібы і праўда, што Беларусь ёсьць самастойная дзяржава, уваходзячая ў Саюз з другімі суседнімі дзяржавамі, бо так галосіць Савецкая Канстытуцыя, але ў жыцьці выглядае зусім інакш. Мы тут таксама маемо даволі добрую і даволі дэмакратычную, Польскую Канстытуцыю, маем яшчэ нават і ўставы „językowe“, але на-жаль толькі на паперы.

Прадусім ня ўсе землі далучаны да Савецкай Беларусі. Ня гледзячы на тое, што Гомельшчына, якая ёсьць неразрываўнаю часткаю жывога арганізму Беларусі, і ня гледзячы што люднасьць не, праз сваіх прадстаўнікоў, аднагалосна высказала сваё жаданьне далучэньня да Савецкай Беларусі,—дагэтуль гэта ня зроблена; ня зроблена гэта і ў другіх мяйсцох, праўда, на меншых абшарах. Масква кажа, што Гомель, гэта вялікі вузел ж. д., гэта стратэгічны пункт, ды мала яшчэ якія прычыны выдумляе, але далучаць, не далучае.

Ды мала гэтага. У Маскве паўстаў праект, каб стварыць „Севера-Западную Аўтономную Обласьць“, гэта знача „Севера-Западный Край“ і далучыць да гэтай „обласьці“ усходнія часткі Беларусі. Прасьцей кажучы, Масква перапужалася, што Беларусь, як такая, даволі вялікая, дык трэба яе разарваць на кавалкі, каб яна не магла супольнымі сіламі разьвівацца і будаваць сваё жыцьцё. Якія-ж матывы да гэтага новага падзелу? Кажуць, што эканамічны стан краю вымагае гэтага падзелу. Але гэткія матывы самы за сябе гавораць.

А калі хто думае, што ў Беларускае дзяржаве, беларус можа кіраваць сам сваім жыцьцём, дык мыляецца. Мо' беларусы маюць голас у палітыцы загранічнай? Ня маюць. Мо' беларусы маюць голас у справе войска? Ня маюць. Мо' беларусы служаць у беларускім войску і да іх камандзіры зварачваюцца на роднай мове? Божа барані. Мо' беларусы маюць пошту беларускую, як рэч сусім нявінную, бо-ж на Беларусі карыстаюцца з пошты, ў пераважнай сваей частцы, беларусы? Таксама не. Мо' на Беларусі можна разгаварыцца пабеларуску на чыгунцы? Ані думай. Хоць і грошы бяруць ад беларуса, а гаварыць на роднай яго мове ня хочуць.

Грошы зьбіраюць, ды ў Маскву адпраўляюць. Я бачыў у Маскве разбудову гэтага гораду, бачыў я і ў Ленінградзе выстраены цэлы квартал новых дамоў; хаця ў Ленінградзе і няма крызісу кватэрнага, аднак робіцца дагоднасьць дзеля рабочых, каб ім з В. Острава, ці з Пецярбурскай Стараны, дзе многа дамоў ёсьць амаль што пустых, ня было далёка хадзіць напрыклад на Пуцілаўскі завод. Бачыў я і Шатурку, дзе збудавана вялізарная електроўня, такія електроўні будуюцца і ў другіх мейсцах Расеі, аднак ня бачыў чагось падобнага на Беларусі. Кажуць, што ў Шатурцы дасталі багацьце з зямлі г. зн. торф і могуць танна дабываць электрычную энэргію, а ці ў нас на Беларусі мала торфу, ці мала багацьця ў непраходных балотах? Але на Беларусь ў Маскве глядзяць, як на „Северо-Западный Край“. У Ленінградзе будуюць цэлыя кварталы, а ў Менску ня могуць ня толькі збудаваць кварталу, а на'т малюсенькага мосьціка, праз каторы цяпер боязна пераехаць. А той квартал, які быў разрушаны ў часе польска-бальшавіцкай вайны, да сёньняшняга дня знаходзіцца ў разрушаным стане.

А трэба-ж ведаць, што праз Маскву і Ленінград ня былі праведзены акопы крывавай вайны, якія былі на працягу трох гадоў у нас на Беларусі.

Праз Маскву і Ленінград не праходзілі колькі разоў усялякія войскі, як гэта было ў нас на Беларусі.

А можа думаеце, што ў Савецкай Беларусі вы можаце дзе-небудзь у ўрадах разгаварыцца пабеларуску? Нічога падобнага. Можаце разгаварыцца папольску, пажыдоўску, парасейску, толькі не пабеларуску. Чуў я, што якобы прыказана чыноўнікам вучыцца пабеларуску, і што на'т даны ім тэрміны, але ніхто гэтых загадаў да сэрца не бярэ і ня вучыцца, бо як беларусы кажуць: „Крук круку вока ня выдзяўбе“, так і там; як вышэйшы так і меншы чыноўнік уважаюць, што лепш гаварыць „на обще-понятном русском языке“.

Хачу быць аб'ектыўным, і скажу, што ў галіне школьніцтва шмат чаго робіцца і добрага дзеля беларусаў.

Можа думаеце, што ў Савецкай Беларусі ўсёж-такі кіруюць беларусы, г. зн. займаюць вышэйшыя пасады? дзе там! Можаце ўбачыць на вышэйшых пасадах каго хочаце: паляка, жыда, маскаля, латыша, толькі не беларуса.

Пытаецеся, дзе беларуская інтэлігэнцыя? Сядзіць, як кажуць, як „мыш пад мятлой“, ды маўчыць, бо калі зачне гаварыць аб палітыцы, дык прыбяруць, калі зачне гаварыць аб беларусізацыі, ці праўдзіва думаць пабеларуску, наклеяць яму ярлык дужа папулярны „шавініст“, „Лістападаўшчына“. Ёсьць там, праўда, некулькі беларусаў на вышэйшых становішчах, якія ёсьць ня чым іншым, як „казламі адпушчэньня“, ці мішэнямі народу. Камуністы кажуць: глядзіце, вы маеце сваіх камісараў, вашых сыноў! Але ня кажуць, колькі іх, і трымаюць іх як ката ў мяшку і Масква робіць што хоча. Як бачым, у Беларусі ўлада польская, жыдоўская, маскоўская, латыская, толькі не беларуская.

Дык мыляюцца тыя, якія цьвердзяць, што Савецкая Беларусь ёсьць вольная і самастойная Рэспубліка.

Савецкая Беларусь мае ад Масквы ўсяго толькі куртатую культуральна-пэрсанальную аўтаномію, а не самастойнасьць.

Пасол **Ф. Ярэміч.**

## З жыцьця арганізацыйнага Беларускага Сялянскага Саюзу.

### Праект праграмы.

#### I. Самастанаўленьне народаў.

§ 1. Стоячы на ґрунце самаазначэньня (самастанаўленьня) народаў, Белар. Сял. Саюз лічыць сваім ідэалам незалежнасьць злучаных зямель Беларускага народу і добрасуседзкія адносіны з іншымі сумежнымі народамі.

#### II. Дарога да мэты.

§ 2. Да гэтай мэты Бел. Сял. С. ідзець дарогай арганізаваньня, усьведамляньня і ўзгадовываньня бел. сялян, парабкоў і бел. сялянскай інтэлігенцыі на грунце сялянскіх клясавых інтарэсаў і на грунце беларускай народнай культуры.

#### III. Зямля сялянству бяз выкупу.

§ 3. Усе нятрудавыя землі: абшарнікаў, дзяржаўныя, касьцельныя, царкоўныя і іншыя, павінны перайсьці ў рукі беларускіх—малазямельных і бяззямельных сялян, бяз выкупу і на ўласнасьць у ліку працоўнай нормы.

§ 4. Падзел зямлі праводзіцца самымі сялянамі праз Сялянскія Зямельныя Камісіі пры Самаўрадах.

§ 5. Сялянскія Зямельныя Камісіі пры Самаурадах могуць звольніць ад парцэляцыі тыя землі, якія патрэбны для прамысловых, культурных, рэлігійных, або навуковых мэтаў.

§ 6. Пры падзеле зямлі Сялянскія Зямельныя Камісіі ўстанаўляюць працоўную норму.

§ 7. Працоўная норма зьяўляецца тыпам самастойнай хутарнай гаспадаркі.

#### IV. Пераход на хутары.

§ 8. Пераход на хотары праводзяць Сялянскія Зямельныя Камісіі са згоды сялян асобных вёсак, або грамадаў.

§ 9. Пры пераходзе на хутары, Беларускі Сялянскі Саюз дамагаецца, каб сяляне атрымалі дапамогу ў форме будаўляных матэр'ялаў і грошы

§ 10. Усе работы, зьвязаныя з пераходам на хутары і парцэляцыяй, адбываюцца для сялян бязплатна.

#### V. Скасаваньне асадніцтва.

§ 11. Стоячы на тым грунце, што ўся зямля павінна перайсьці ў рукі малазямельнага і беззямельнага беларускага сялянства бяз розьніцы веры, Беларускі Сялянскі Саюз дамагаецца скасаваньня якнайхутчэй вайсковага асадніцтва і прыватнай калянізацыі беларускіх зямель.

#### VI. Земляробская культура.

§ 12. Беларускі Сялянскі Саюз імкнецца так-жа да палепшаньня гаспадарчага палажэньня вёскі праз узрост земляробскай культуры і павялічэньне абшару ўпраўнай зямлі.

§ 13. Сяляне павінны карыстаць з таннага крэдыту на загаспадараваньне, на закуплю інвэн-

